Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. | Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 32—(72). Вільня, 25 кастрычніка 1928 году. Год II.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ





| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода—5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |



## Бараніце беларускіх дзетак.

За спрэчкамі і бясплоднымі палітычнымі разважаньнямі неяк непрыкметна прайшоў у беларускай прэсе „Тыдзень Дзіцяці", у працягу катораго ўся польская прэса на старонках сваіх часопісаў пасьвячала шмат месца і ўвагі справе ўзгадаваньня маладога пакаленьня.

Арганізатары „Тыдня Дзіцяці" мелі на мэце зьвярнуць увагу шырокіх колаў грамадзянства, што справа ўзгадаваньня моладзі ня ёсьць справай прыватнай паасобных адзінак, а справай, аб якой павінна руліцца ўсё грамадзянства, бо ад таго, якой будзе моладзь, ці ўзгадуецца яна на людзей дужых духам і целам, ці вырасьце на фізычных і духоўных калек, залежыць будучына народаў, нацыяў і гаспадарстваў.

Навука сучасная зусім здаваляючы вырашае справу фізычнага ўзгадаваньня моладзі. Але што памагчы можа добрая і сьветлая рада навукі, калі варункі жыцьця ў большасьці выпадкаў не даюць магчымасьці выкарыстаць яе. Дзіця не павінна быць галодным, павінна жыць у сьветлых прасторных цёплых хатах, павінна дыхаць сьвежым паветрам і г. далей, вось элемэнтарныя вымогі, якія ставіць навука для рацыянальнага фізычнага ўзгадаваньня дзіцяці. Мы ведаем, што жыцьцё сучаснае, шмат дзе не дае магчымасьці выпаўніць нават гэтых элемэнтарных наказаў.

Вырашэньне справы рацыянальнага духоўнага ўзгадаваньня моладзі зьяўляецца яшчэ больш трудна.

У гэтай галіне досьледы навукі не далі дагэтуль зусім пэўных рэзультатаў і затрымаліся на прызнаньні пэўных мэтодаў і спосабаў, якія ў практыцы не заўсягды даюць памысныя рэзультаты. Бо сапраўды вельмі цяжка прасачыць усе духоўныя працэсы, якія адбываюцца ў душы чалавека ад яго калыскі, аж да часу, калі дзіця перастае быць дзіцём і як зусім псыхічна закончаны арганізм уваходзіць у жыцьцё.

Досьледы гэтыя кажуць, што на ўзгадаваньне псыхічнай істоты дзіцяці вялікае значэньне мае жывы прыклад і духоўная вартасьць людзей акружаючых яго. Дзіця, якое гадуецца ў сямье зладзеяў—рэдка калі вырасшы, ня бывае само злодзеем. Дзіця, якае бачыць вокал гульню, пьянства, карты, распусту—рэдка калі ўваходзіць у жыцьцё ня маючы усіх гэтых благіх ухілаў.

Кожны з нас разумее, як цяжкай у гэткіх варунках выглядае справа духоўнага ўзгадаваньня беларускіх дзетак.

Цемра і гора і неразуменьне элемэнтарных асноў узгадаваньня дзіцяці, не даюць вельмі часта магчымасьці вытварыць з маладога дзіцячага арганізму дужых духам і целам людзей, нават у тых шчасьлівых абставінах, калі благі прыклад не забівае яго душы.

Нажаль ня толькі цемра і гора цяжкім камнем ляглі ў нас на гэтым шляху.

Аб людзёх цёмных можна сказаць адно: „ня ведаюць, што робяць" і даравацъ ім іх

нявольныя абмылкі. Але ня можна дараваць тым, хто чарпаючы з крыніцы сьвятла навукі, зусім сьведама калечыць душу беларускіх дзетак для сваіх асабістых мэтаў.

Маем туткі на думцы працу камуністых, якія для мэтаў трыумфу свае партыі, маняцца захапіць у свае рукі душу беларускай моладзі. Мы ўжо ня раз пісалі аб моральнай вартасьці тэорыі і практыкі камунізму. Камуністычная мораль, гэта антытэзы моралі культурнага чалавецтва.

Не ўдаваючыся аднак цяпер у палеміку адносна вартасьці тэй ці іншай моралі, мусім сказаць адно: ня можна малых дзетак і моладзь нязрэлую ўцягваць у палітычную працу, як гэта робяць камуністыя, ня можна яе кідаць у бруд партыйных спрэчак і грызьні, якія, быццам страшэнная атрута нішчаць душу ўсяго беларускага народу, а для маладых дзіцячых душ зьяўляюцца проста забойчай.

Гэтым імкненьням камуністых, гэтым уплывам, якія яны стараюцца здабыць і пашырыць галоўным чынам паміж найбольш для беларускага народу цэннага элемэнту беларускіх дзетак — паміж вучняў сярэдніх школаў, павінна праціставіць свае ўплывы ўся разумнае і маральна здаровая частка беларускага грамадзянства, бо справа ідзе аб вялікіх вартасьцях, аб вялікіх скарбах: аб духоўнай істоце будучага пакаленьня беларускай інтэлігэнцыі.

## Здаровы голас.

Ніжэй падаем цалком артыкул, надрукаваны ў № 46 „Крыніцы“, які зьяўляецца пацьвярджэньнем думак, кіданых ня раз на старонках „Бел. Дня“, што шлях да лепшае долі сялянства вядзе праз упартую, штодзённую цяжкую працу. Ніякія ванковыя абставіны, ніякія соцыяльныя і палітычныя зьмены, не патрапяць палепшыць цяжкай сялянскай долі, пакуль яно не зразумее гэтай вялікай праўды.

Так! палепшыць сваю долю сялянства мажа толькі сваімі ўласнымі высілкамі, толькі сваімі ўласнымі рукамі.

Німа „паноў“ альбо „гарадзеяў“ якія адным махам, некай чорнакніжнай палачкі маглі-б пераманіць яго жыцьцё.

Добрабыт, у якім жывуць сяляне Даніі, Швэцыі, Швэйцарыі і шмат іншых народаў, ня прышоў да іх адразу, а зьяўляецца рэзультатам іх даўгалетнеі працы, іх руплівасьці, іх уменьня арганізавацца і выкарыстаць здабычы навукі і тэхнікі для працы на ралі.

Падаючы зьмест гэтага артыкулу, хочам адначасна адзначыць, што нажаль, гэткія артыкулы рэдка пападаюцца ў беларускай прэсе, якая вельмі часта заместа таго, каб выпаўніць свой сьвяты абавязак перад сваім сярмяжным цёмным братам і кінуць яму ў вочы ўсю праўду, незалежна ад таго, ці падабаецца яна яму ці не, корміць народ байкамі і салодкімі словамі, абы толькі не страціць папулярнасьці ў масах.

„Усюды ў нашых сяньня вёсках пачуем адно: „кепскія часы насталі“, „так яшчэ ніколі ня было“ і шмат нараканьняў, бо наступіла вялікае абядненьне вёскі. Тлумачаць сабе людзі гэту бяду розна. Адны паваеннымі злыбядамі, другія неўраджаем, іншыя палітычнымі абставінамі і т. п. Усе чакаюць якойсьці перамены, чакаюць некага, хто прыдзе і адразу наладзіць дабрату. У чым гэта перамена павінна наступіць і як той, хто

## Успаміны з Пэрсыі.

(Гл. № 31 „Бел. Дня“).

Варункі, у якіх апынуліся расейскія войскі ў Пэрсыі былі страшэнна цяжнія. Праўда вайна тутакі ня мела гэткага забойчага характэру, як на фронце нямецкім, альбо аўстрыйскім, ня было тутакі гутаркі аб ураганным агні, аб удушлівых газах і аб цэлым шэрагу тых выдумак навукі і тэхнікі, якія аружнае змаганьне нарадаў пераварвалі ў нейкую крывавую бойню.

Затое чаго не магла зрабіць злосьць чалавека, рабіў клімат.

Як я ўжо казаў чугуначная лінія вельмі мала разьвіта ў Пэрсыі. Звычайнымі спосабамі камунікацыі і перавозкі зьяўляюцца ішак, мул, вярблюд і конь.

Праўда, асобны кавалерыйскі корпус, які на гэтым фронце вёў ваенныя апэрацыі меў у сваім распараджэньні самаходную роту — з яе 50-60 самаходамі, але гэта была капля ў моры, калі прыняць пад увагу аграмадную даўжыню фронту, абнятага асобным корпусам і вялікую адлежнасьць яго ад свае базы, якая была ў Энзэлі. У дадатак горны характар Пэрсыі і нязначны лік шляхоў прыгодных для самаходнай камунікацыі, яшчэ больш зьмяншалі тамакі значэньне самаходаў.

Дзякуючы гэтым варункам, расейскае войска перш чым папасьць на лінію фронту змушана было прайсьці па 400-500 і болей кілёметраў.

Гэткія пераходы былі вельмі цяжкімі для кавалерыі і артылерыі, а для пяхоты проста былі забойчымі, асабліва ў летнюю пару. Іх проста касіла малярыя, халера, тыфус, гарачка і іншыя хваробы.

Прыпамінаю адзін гарачы дзень у ліпні, ці жніўні месяцы, калі я спаткаўся з батальёнам пяхоты, стоячым бівакам недалёка ад Хамадану.

Сонца паліла гэтак няміласэрна, што пыльная дарога, скалы і ўсё вакол рабіла ўражаньне аграмаднай, дыхаючай полымям печкі.

Расьцягнуўшыся доўгім ланцугом каля стромкага скату гары баталіон адпачываў пасьля цяжкай падарожы. Людзі туліліся бліжэй да яе каменнага цела, шукаючы цені.

Шэрыя, пакрытыя пылам яны ляжалі ціха, быццам мрацы. Іншыя былі змучаны да таго, што ня мелі моцы запаўзьці ў цень гары і ляжалі бязсільна раскінуўшы рукі і ногі па сонцапёку прыкрыўшы шапкамі галаву і твар.

Тыя, што мелі яшчэ сілы змагацца, расьцяг-

мае наладзіць дабрабыт, павінен выглядаць, ніхто сабе не ўяўляе. Тымчасам мінуючы ўсё іншае, гэта ёсьць прадусім хвароба нашага народу. Мы хварэем, наша хвароба нябесьпечная. Нам трэба пазнаць сваю хваробу і знайсьці спосаб яе лячэньня.

Як кожная хвароба, так і нашае абядненьне вёскі маюць свае прычыны. Галоўнай прычынай нашай злыбядзі — гэта наша занядбаласьць пад кожным паглядам. Мы баімся ўсялякіх навасьцяў, мы састарэлі ў нашых паглядах. Няхай нас ня ведама як пераконывае новая сапраўды паступовая рэч, мы яе бэзкрытычна адкінем і рознымі спосабамі ад яе баронімся, кажучы: „не рабіў гэтага мой дзед, ня буду рабіць і я". І гэтакім спосабам астаецца ўсё пастарому, а жыцьцё тымчасам ідзе ўсё ўперад, бо мае свой закон, а мы што раз то астаёмся, ўсё далей і далей ад жыцьця. Наш селянін ня хоча ніяк уцяміць, што ўжо ня тыя часы і ня тыя абставіны, якія былі за часаў яго дзеда.

Дзед яшчэ меў паўвалоку зямлі, а то й цэлую валоку і ён мог сяк так пражыць такім спосабам, які пануе дасюль у нашых вёсках. Цяпержа рэдка дзе ў вёсках спаткаеш поўвалочных гаспадароў, найбольш то па 3 або 4 дзесяціны. Другая прычына нашай злыбядзі ёсьць тая, што й таго малога ахлопка зямлі ня ўмеем выкарыстаць.

Чаму народы заходніх краёў Эўропы на такой-жа зямлі маюць лепшы ўраджай і лепш многа жывуць ад нас. Бо яны моцна, моцна аб сабе дбаюць і ўмеюць кожную добрую навасьць, кожны поступ прыспасобіць да свайго варштату працы, яны абрабляюць зямлю новымі спосабамі, ужываюць штучныя гнаі, ужываюць рожных машын. А калі ня могуць мець гэтых машын кожны па асобку, то набываюць іх арганізацыямі і так з іх карыстаюць. Тое, што ў нас трэба рабіць тыдзень рукамі, ім зробяць машыны за дзень і лепш.

Сеюць насеньнем толькі добрым, умела гадуюць добрую жывёлу, разьвіваюць свой промысл і самастойна гандлююць. Мы-ж умеем толькі крыўдзіцца на сваю біду, а за дзела брацца нам ня хочацца. Мы баімося ўсяго і таго, чаго ня трэба баяцца. І так зжываемся з бядой, а яна тымчасам робіць сваё. Робіць з нас нявольнікаў, да нічога ня здатных.

Хто хоць крыху над гэтым застановіцца, напэўна праканаецца, што далей так быць не павінна, што мусім самі церабіць шлях да лепшай будучыні свайго народу і прыгатаўляць маладшае, спадкаберніцкае па нас, пакаленьне, вясьці жыцьцё Беларускага народу па належным шляху жыцьця, а ня сьмерці. Мы цяпер стаім над пропасьцяй. Пара апомніцца!

Дык што-ж рабіць?

Прадусім трэба рабіць тое, што можам зрабіць. Трэба нам больш чытаць свае газэты, кніжкі на тэмы гаспадарскія, зарганізаваць свае гурткі культурна-прасьветна-гаспадарскія, прыкладам „Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры", арганізаваць каапэратывы, касы, бібліотэкі, чытальні, ладзіць курсы, арганізаваць малачарні і інш.

Свае арганізацыі узгадаюць нам свабодную душу, вырвуць яе з путаў духовай няволі. Маючы свабодную душу, мы патрапім павясьці свае гаспадарскія арганізацыі так, што яны дадуць нам працу і магчымасьць дайсьці да лепшай будучыні. Праз свае арганізацыі мы навучымся, як лепш абрабляць зямлю, гадаваць скаціну і як і дзе лепш прадаць свой тавар, як і дзе лепш купіць патрэбны сабе тавар. Гэтай і толькі гэтай дарогай мы здабудзем веду і капітал, а гэтым самым вызвалімся з сучаснай бяды і забясьпечым далейшы росквіт нашай беларускай культуры і нацыянальнасьці".

---

валі на палках убітых у зямлю палотнішчы палатак, і паўтыкаўшы галовы ў цень яе, хаваліся гэтак ад агнявых забойчых праменьняў сонца.

Недалёкая студня ўся была абкружана народам. Там чутны былі гоман і лаянка: гэта сварыліся паміж сабою жаўнеры за чарод да вады. Сварка рабілася ўсё большай і большай, бо студня была вычарпана амаль да дна і цяпер кацялкі выцягвалі з нетраў яе заместа празрыстай вады, некую брудную, мутную жыжу. Урэшце пачалі выцягваць толькі густое балота і смокалі яго.

Недалёка ад студні стаялі двуколкі лазарэту. З іх выглядалі твары хворых. Адных відаць мучыла малярыя: яны лязгалі зубамі як ваўкі і дрыжалі. Іншыя з васкова-жоўтымі тварамі, з пагаснуўшымі вачамі, рабілі ўражаньне мрацоў.

Недалёка на зямлі ляжала двох жаўнераў, скончыўшых свае парахункі з жыцьцём. Грамадка людзей з лапатамі ляніва капала ім дамоўку тут-жа пры дарозе. Над галавамі іх, на скалах зьбіраліся груганы. а высока, быццам пылінкі, закіненыя ў сінія прасторы, плылі арлы сьцярвятнікі, зоркім вокам з вышыні паднебнай шукаючы здабычы.

(*Працяг будзе*).

---

## Саветы і пьянства.

Поўнае банкруцтва гаспадарчай палітыкі Саветаў, заснаванай на нацыоналізацыі галоўных галін фабрычнага промыслу і гандлю, найлепш відаць пры перагледзе буджэту С. С. С. Р. на 1928—29 год.

Галоўнай крыніцай даходаў у гэтым буджэце, як і за часы самадзержаўя зьяўляецца манаполька, даходы з каторай на 1928—29 буджэтны год дасягаюць сумы 1200 мільёнаў залатых рублёў, тады, калі ў 1913 годзе ў царскай Расеі даход з манапалькі быў ўсяго 600 мільёнаў рублёў. Саветы таксама як і самадзяржаўе жыве з пьянства цёмных мас, з тэй толькі рожніцай, што Саветы, больш спаіваюць народ, чым гэта рабіла самадзержаўе. І сапраўды пьянства ў саветах пашыраецца страшэнна. У адным толькі Ленінградзе (даўнейшы Пецярбург) у якім цяпер налічаюць да 1 мільёна 200 тысяч людзей, было выпіта за леташні год 7 мільёнаў вёдраў піва і 2 мільёны вёдраў гарэлкі.

Ня меней ад Ленінграда пашыраецца пьянства і ў іншых прамысловых цэнтрах, як напрыклад у Маскве, а таксама і на вёсках.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Камасацыя і шматпольле.

Трэба думаць, што комасацыйны рух на Беларусі гадоў цераз 10 — 20 вызваліць наш край ад тэй гаспадарчай неразьбярыхі, што так моцна яшчэ сягоньня пануе ў нашае нескамасаванай вёсцы.

Параскіданыя па ўсім полю вузенькія шнурочкі, якіх можна шмат дзе лічыць дзесяткамі, стаялі перашкодай да прогрэсу ў сельскай гаспадарцы. Можна сьмела сказаць, што вясковая шахаўніца прычынілася да нашае культурнае адсталасьці, што вёска зьвязвала рукі больш сьвядомым і руплівым гаспадарам. Толькі з комасацыяй, якая аканчальна наносіць сьмяротны ўдар нашай дзядоўскай гаспадарцы, адкрываецца шырокае поле для працы нашым гаспадарам-культурнікам, якія, трэба спадзявацца, павядуць за сабой і больш адсталых сялян. Комасацыя — гэта шлях да лепшага заўтра.

У гэты час, калі комасацыя руйнуе старые парадкі ў гаспадарцы, мы мусім ясна ўявіць, што нам трэба перш-на-перш зрабіць на хутары, каб ён у хуткім часе пакрыўся ня ўбогай расьлінкай на палову з сьвірэнкай ці іншымі сарнякамі,—а буйнымі збожжамі. Цяпер мы мусім прыпомніць, што і на хутары са старой гаспадаркай мы ня вызвалімся ад тэй нэндзы, якая сапутнічала нам на вёсцы.

Першым крокам да паляпшэньня нашае гаспадаркі і галоўным, будзе замена аджыўшай трохпалёўкі на шматпольле.

Шмат гаварылася і пісалася, роўна як і цяпер усюды гавораць і пішуць аб тэй шкоднасьці трохпалёўкі якая 300 — 400 гадоў назад запанавала ў нашым краю і якая моцна трымаецца і сягоньня.

Зьявілася яна ў нас пры тых умовах, калі зямельнае пытаньне яшчэ не істнавала, свабоднай зямлі навокал было ў дастатку, а сьвежа-выцерабленыя з-пад лесу сенажаці давалі добрыя ўраджаі сена і недахопу ў гнаі для яшчэ нявыратай нівы ня было. За час істнаваньня трохпалёўкі ўмовы зусім зьмяніліся і трымацца пры ёй ёсьць праступак, бо пры трыхпалёўцы мы не даатрымліваем 50 і больш процантаў ураджаю.

Праўда, у нас ужо можна бачыць шмат дзе канюшыну на полі, але травасеяньне праводзіцца бяз ўсялякага пляну, чаму яно не дасягае сваей мэты і так марудна разьвіваецца ў нас. Толькі з пераходам да шматпольля з правільным патрэбным для даннага тыпу гаспадаркі чарадаваньнем расьлін у севазвароце мы можам падняць прадукцыйнасьць нашай глебы і гэтым самым падняць экономічны ўзровень нашае сельскае гаспадаркі.

У гэтым нарысе мы разглядзелі тыя практычныя данныя, пры дапамозе якіх мы хутчэй і абмінаючы шмат абмылак пеойдзем да правільнага севазвароту, у якім мусяць расьлінкі так паміж сабой чарадавацца, каб яны глебу не спаражнялі ад спажыўных матэрый, а наадварот—падрыхтоўвалі за шчот натуральнага спасу спажывы глебы для наступнай збажжыны. Мы мусім пры шматпольлі выкарыстаць кожны свабодны кусочак зямлі.

Пры ўкладаньні севазвароту трэба абавязкова паклікаць агранома свайго сойміку, які добра вывучыўшы кліматычныя, глебавыя і экономічныя ўмовы гаспадаркі даннага раёну намеціць севазварот. Тут добра апраўдываецца наша прымаўка: „сем раз адмер, а адзін раз адрэж“.

Зразумела, што ўкладаньне севазвароту значна лягчэй вырашаецца тады, калі мы маем пад рукой гатовы каморніцкі плян; аграному тады лёгка прыкінуць разьмеры зьмен на гатовым пляне і потым хутка праводзіць у натуру іх межы. Калі-ж гаспадар не мае каморніцкага пляну, дык праца па ўкладаньню севазвароту робіцца маруднай і патрабуе шмат часу дзеля падрыхтоўкі і разьбіўкі зьмен.

У натуры, у полі, агранам спачатку абавязкова павінен адзначыць будучыя межы, каб потым не паблытаць зьмен.

Пры розных севазваротах, расьліны займаюць розныя па вялічыні плошчы. Жыта можа займаць ад 22 да 33 процантаў, ярына—ад 11 да 33, папар—ад 12,5 да 25, кармавыя травы—ад 22 да 28%; бульба з корняплодамі пажадана, каб займала зусім асобую палетку. Папар трэба старацца па магчымасьці займаць такой расьлінай, як віка на зялёны папар, ці пад канюшыну. Папар займае тым меншую плошчу поля, чым апошняе разьбіта на большы лік зьмен, што можна заўважыць з наступнае табліцы:

| Севазвароты | Займае проц. ад усея плошчы ральлі | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Папар | Жыта | Ярына | Травы | Лён | Бульба |
| 3-х палёвы . . . . | 33 | 33 | 33 | — | — | — |
| 4-х палёвы . . . . | 25 | 25 | 25 | 25 | — | — |
| 9-ці палёвы . . . | 22 | 22 | 11 | 22 | 11 | 11 |
| 6-ці палёвы . . . | 16,5 | 33 | 16,5 | 33 | — | — |
| 7-мі палёвы . . . | 14 | 28 | 14 | 28 | — | 14 |
| 8-мі палёвы . . . | 12,5 | 25 | 25 | 25 | — | 12,5 |

Як відаць з гэтае табліцы, лён пры 9-ці польлю можа займаць усю асобную палетку.

Які-ж будзе найлепшы севазварот?

Севазварот можна ўкласьці толькі на месцы, прыпасоўваючы яго да мясцовых умоў гаспадаркі. Кожны севазварот перш-на-перш мусіць быць так уложан, каб расьлінкі ў ім чарадаваліся паміж сабой у такім парадку, пры якім найменш абязьсільваецца глеба і потым умяшчаў-бы тыя збажжыны, якія найпатрабнейшыя дла даннага тыпу гаспадарак і даннага раёну.

У апошнія гады перад вайной 1914 г. на некаторых хутарох Беларусі, часта ўжываўся 4-х палёвы севазварот 8-мі гадовым зваротам канюшыны. Гэты севазварот мае тыя недахопы, што канюшыну прыходзіцца высяваць ня штогод, а цераз год, дзеля чаго і ўраджаі яе бываюць ня роўныя, бо першагодны пакос канюшыны заўсёды большы, чым другога году. Затое гэты севазварот добра надаецца для дробнага гаспадара, зямлю якога прыходзіцца разьбіваць не на 7—8—9—10 і больш палетак, а толькі на 4.

Пераход да гэтага севазвароту ад трохпольля залежыць у тым, што вясной па ўсходам азіміны на двух трэціх частках азімага поля высяваюць насеньне канюшыны. але робяць гэта ня што год, а праз год, Тады ўстановіцца такое чарадаваньне расьлін:

Першы год—азіміна з падсевам канюшыны па ўсходам,
другі год—канюшына першагодняга ўкосу,
трэці год—канюшына другога году,
чацьвёрты год—ярына,
пяты год—папар,
шосты год—азіміна,
сёмы год—ярына і
восьмы год—папар.

Пры такім чарадаваньні расьлін, поле пад канюшынай пакідаецца на два гады, а на трэці год паступае пад ярыну; пры гэтым паднімаць канюшынае поле абавязкова трэба з восені, а канюшыну сеяць па азімым усходам, толькі ў той год, калі старая канюшына косіцца другі год.

Пры гэтым севазвароце ўсё поле прыходзіцца разьбіваць на 4 палеткі, а ня 8.

Іншых севазваротаў тут мы не разглядваем, памятуючы, што адзін які-небудзь севазварот раіць для ўсяго нашага краю — немагчыма, як і наагул на ўсе пытаньні па сялянскае гаспадарцы, бо ўсё ў гаспадарцы залежыць ад шмат мясцовых варункаў. Выўчыўшы іх ўсёбакаво— тады гаспадар можа добра арыентавацца ў часта складных пытаньнях гаспадаркі. Але трэба прызнаць, што правіла кожнага севазвароту заключаюцца ў тым, каб тут расьлінкі чарадаваліся паміж сабой так, каб за збажынай з адным вымаганьнем ад глебы — ішло наступнае збожжа з другім вымаганьнем. Напр.: усе каласавыя хлябы, як жыта, авёс, ячмень, пшаніца вымагаюць ад глебы шмат фосфару і азоту; травы-ж: як канюшына азоту зусім не патрабуе, а корень-клубнеплоды шмат вымагаюць паташу (калія), які пры культуры каласавых хлябоў астаецца ў глебе ня выкарыстаным. Правільным чарадаваньнем суадказных расьлін мы можам тут найразумней выкарыстаць даравыя сілы прыроды.

Трэба спадзявацца, што шматпольле, якому адкрыла дарогу камасацыя, прычыніцца да шпаркага разьвіцьця сельскае гаспадаркі — гэтай галоўнай крыніцы існаваньня нашага краю.

*S.*

## Культура лёну (Linum usitatissimum).

(Гл. № 31 „Б. Д.“).

Добрае пасеўнае семя лёну можна заўсёды пазнаць па гэтакім адзнакам: яно павінна мець прадаўгаватую форму, як-бы з загнутым кручочком на канцы, быць больш пласкае, чым поўнае і мець светла-карычневы (брунатны) колер. Калі сьціснуць семя ў жмені (руцэ), то большая палавіна яго павінна лёгка як-бы выплываць з рукі паміж пальцамі, на далоні павінна заставацца шмат як-бы прыліпнутых зярнят льну. Пры апусканьні ў ваду добрае семя патоне, кепскае-ж доўга плавае паверх вады. Калі кінуць жменю семя льну на раскалёную бляху або скавараду, то яно павінна падскакваць, а калі семя абугліваецца і зусім не трашчыць, то гэта пэўная адзнака, што семя прыпсута — сплясьнела, і т. п.

Усходнасьць семя льнянога павінна быць ня меншая, як 85—90 проц., каліж папрабаваць прарашчываць насеньня ў мокрай анучцы або пяску, і працэнт усходнасьці паказывае 50-60 прац., то гэткае насеньне лепш на пасеў не ўжываць, а рабіць алей. Практыка даводзіць, што пасевы старым, добра перахаваным 2-х, 3-х гадавым насеньнем, дае лепшыя ўраджаі валакна, як пасеў сьвежым насеньнем.

Пры доўгім адпаведным пераховываньні ўсе слабыя, дробныя і недасьпеўшыя зярняты загубяць сваю уходнасьць, а застануцца ўсходнымі адны толькі добра дасьпеўшыя і здаровыя насеньні, і тады пасеяны лён выйдзе буйным, здаровым і дасьць дабры ўраджай. Двух-трох гадовага насеньня лёну высяваць трэба трохі больш, як сьвежага; насеньне лёну заховывае сваю ўсходнасьць да сямі і больш гадоў.

Час пасеву лёну заусёды залежыць ад кліматычных варункаў: чым цяплей зачынаецца вясна, тым раней сеюць лён, абы толькі не зашкодзілі вясеньнія прымаразкі. У кожным выпадку пасеў лёну ня трэба пазьніць, бо на позьнія пасевы часта нападае земляная блаха (Haltica nemorum), ад якой бароняцца тым, што пасыпаюць поля з пасевам лёну звычайным попелам з печы, або зяраз-жа па пасеве поля вальцуюць, або ўкатываюць катком, тады ад ветраў няма куды блохам падзецца і яны гінуць.

У нас на Беларусі ёсьць звычай сеяць лён найбольш каля трэцяга чэрвеня, або ў дзень Канстантына і Алёны, што бывае 21 мая па старому стылю. Словам, лён пачынаюць сеяць тады, калі закукуе зязюля, што ёсьць вернаю адзнакаю, што ўжо будзе цёпла. Пры севе лёну на валакно звычайна высеіваюць на гэктар 7, 8 і 9 пудоў. Калі ж хочуць атрымаць больш льнянога семя, як валакна, то высяваюць ня больш 4-5 пудоў на гэктар. На грунтах пладародных і глыбока абробленых сеяць трэба гушчэй, каб ня даць магчымасьці лёну расьці ў атожылы; на грунтох-жа, хаця і пладародных, але лёгка аброобленых сеяць заўсёды трэба радчэй, бо лён можа вылегчы. Звычайна на грунтох мала-пладародных заўсёды патрабуецца высяваць больш насеньня лёну. Наагул трэба заўважыць, што хто хоча атрымаць тонкае і дэлікатнае валакно і каб яго было больш, не гоніцца за насеньнем, то пасеў лёну трэба рабіць больш густы. Сеяць лён трэба старацца роўна без пропускаў і абсеваў, дзеля чаго найлепш разьдзяліць насеньне на дзьве часьці і высяваць на-крыж, гэта значыць — адну палавіну насеньня высяваюць уздоўж загонаў, а другую — упоперак.

Высеянае насеньне забарановываюць жалезнымі баронамі, пры гэтым трэба заўважываць, каб паміж зубамі бараны не заставаліся грудкі зямлі і пырніку, дзеля чаго трэба часьцей падымаць і ачышчаць барану. Надта добра пасьля баранаваньня пасеваў лёну, прывальцаваць поле цяжкім дзеравянным вальцам. На вальцаваным полі ўсходы лёну зьяўляюцца дружней, лён расьце раўнейшы ад чаго выдае роўнае і добрае валакно. Апрача таго, поле ня так хутка высыхае, ня гэтак нападае блаха, бо яна ня любіць сырасьці. Разумеецца, вальцаваньня ня трэба ўжываць на грунтох цяжкіх, вязкіх і надта сырых. Як-бы поле ня было добра падгатавана, ўсё-ж такі ў сырыя і дажджлівыя годы часта ўсходы лёну забіваюцца сьметнікавымі травамі, з якіх найбольш

паміж лёну пападаюцца: касьцер (Bromus secalinus), рыжык або льняніца (Camelina sativa), асот палявы (Girsium arvense), лебяда (Atriplex oblogifolia), повіліка льняная (бярозка) (Cuscuta Epilinum) і шмат іншых. Каб лён ня быў заглушаны гэнымі травамі, трэба яго палоць, што пачынаюць, рабіць, калі лён падняўся на 3-4 цалі. Палоць трэба не ў сухую і гарачую пагоду, роўна як і не ў сырую, дзеля таго, што ў сухую пагаду будуць абрывацца толькі адны сьцебла траў, а карэньня пазастаюцца ў зямлі; у сырую-ж пагоду лёгка можна разам з травою павырываць і лён, дык найлепш усяго палоць у пахмурную і ветраную пагоду, тады лён хоць будзе трохі і прымяты хутка выпрастуецца ветрам і адрасьце. Праз тыдняў два-тры, полку, калі трэба, ізноў паўтараюць. Калі лён падрасьце на цаляў 5-6 (цантым. 10-12) палоць ня сьледуе, бо можна пашкодзіць яму.

З расьліпных хвароб, якім наўбольш падпадае лён, гэта будзе *ржаўчына* (*Melapsora lini*), ад якой на лісьцях лёну зьяўляюцца ярка-жоўтыя плямы, якія пераходзяць ў чуць відавочныя нарасты на сьцяблах і маюць выгляд на сухом лёне, як-бы чорнаватых крапінак. У гэтых месцах валакно надта лёгка рвецца і многа лёну ідзе ў атрэц'я. Хвароба гэта выклікаецца асобным паразітным грыбком, ад якога найбольш церпіць слабы лён. Асобных мер барацьбы проціў гэтай хваробы няма, трэба толькі старацца, каб лён часта ня сеўся на адным і тым-жа мейсцы раней як праз 6-9 гадоў.

Даволі часта бывае, што пасьля вялікай расы, або дажджу застаюцца на вярхушках сьцеблаў лёну вадзяныя капелькі і калі наступае гарачая сонечная пагода, то лён лёгка можа захварэць на гэтак званы *сонечны ўдар*, пры якім коскі сонца праходзячы праз каплі вады, як бы праз запальваючае шкло, прыпаліваюць вярхі лёну, ад чаго ён перастае расьці ўверх і пачынае кусьціцца. Каб ад гэтага забясьпечыцца, трэба заўсёды страсаць надта вялікую расу, або каплі дажджу пры настаньні гарачае пагоды: гэта лёгка даходзіцца тым, што двое людзей бяруць вяроўку і ідучы ўздоўж загону цягнуць яе, адчаго раса ападае.

Бывае яшчэ, што на лён нападае гэтак званая *прысуха* і тады расьлінкі лёну перад цьветам пачынаюць цямнець і засыхаць. Прысуха найбольш зьяўляецца на лёне, які пасеяны за надта пустой і неўраджайнай зямлі. Каб хвароба гэная не заразіла ўсё поле, трэба прыхваченыя прысухай расьлінкі зазаз-жа вырываць, бо прападзе ўвесь лён. *Я. Х.*

(*Працяг будзе*).

## Курсы Пчалярства.

**З мэтай павялічэньня даходу пасек і пашырэньня паміж мясцовага грамадзянства навукі аб рацыянальным пчалярстве, Саюз Колаў і Сельска-Гаспадарскіх Арганізацыяў Віленшчыны, арганізуе ў горадзе Паставах у памешканьні Народнага Дому, трохдзённыя курсы пчалярства. Пачатак курсаў дня 27-га кастрычніка а гадзіне 3-яй пасьля поўдня. Курсы для ўсіх бязплатныя.**

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Пароды пчол.

Прыймаючы пад увагу, што шмат хто з нашых пчаляроў (ці пачаўшых, ці пачынаючых, ці зноўжа маючых замер пачаць разьвядзеньня пасекі) цікавяцца пародамі пчол, я хацеў-аы якраз і даць у гэтым артыкуле дакладнае апісаньне гэтых пародаў.

Цікавасьць пчаляра да пазнаньня рожных пародаў пчол, не павінна быць цікавасьцю пустою, а гэта павінна быць неабходнаю рэчаю для кожнага, дзеля таго, што ў гэтым ляжыць сэнс усей яго працы і карысьці з яе. Ніхто сяньня ня можа утрымліваць, што гадоўца быдла не павінен знаць тэй расы быдла, якую ён разводзіць цяпер, ці зноўжа на будучыню маніцца разводзіць, гэтага ня можа быць, бо на гэтакага гадоўцу нават і добры гаспадар скажаць: ён дрэнны гадоўца. Тое-ж самае больш-менш здарыцца і з пчаляром.

Усе пароды ён павінен добра знаць з усіх бакоў, а то з вонкаваго выгляду і з унутраннага ўспасабленьня характару, працавітасьці, нараваў і г. д. і адным словам ён павінен ведаць усе асаблівасьці кожнае пароды і арыентавацца, якую з іх найляпей будзе можна разводзіць у данным клімаце і ваколіцы.

Прыступаючы да апісаньня пародаў, прыходзіцца надмяніць, што гэтыя пароды часта рожняцца паміж сабою колярам і велічынёю, як гэтак сама і працаздольнасьцяй; адныя з іх бываюць больш працавітыя і лагодныя успасабленьнем, другія часьцей раяцца і г. д.

Я займуся на самым пачатку апісаньнем тых пародаў, якія спатыкаюцца на нашых беларускіх землях. У нас спатыкаюцца дзьве галоўныя пароды, гэта: 1) парода мясцовая, ці як накш на яе кажуць славянская і 2) парода італьянская, ці як накш яе называюць, — лігурыйская. Што да нашае мясцовае расы, дык з даўных часоў існуе на нашых землях і напэўна можна сказаць, што яна бярэ свой пачатак з тых далёкіх часоў, калі пчолы па лясох яшчэ жылі ў дзікім стане. Датарноваючыся да іх інстыктаў, чалавек пачаў даўбіць для іх падобныя да натуральных дзюпла, з тым палепшаньнем, што ўвёў для лепшай працы пчол шыршае гняздо, ляток (вочка) і даўжыню. Няма тут ніякага сумліву, што ў даўнейшых часох усе пасекі знаходзіліся па лясох і што гэтыя штучна выдаўбленыя дзюплы, знаходзіліся ў дрэвах на пні, гэта значыць жывучых яшчэ.

Пазней, па меры зьніштажэньня лясоў і разьвіцьця рабунковае гаспадаркі „выдзіраньня“ пчолаў з боку суседаў, пачалося перанясеньне дзюплаў на месцы больш бяспечныя, бліжэй дому, дзе іх лёгка было-бы ўпільнаваць ад рожных прыкрых выпадкаў. З гэтага паўстала прымітыўная пасека ў калодах, якая ў некатарых мясцох вядзецца яшчэ і цяпер. Разам з перанясеньнем дзюплаў-калодаў ў пэўнае мейсца пераняcьліся і пчолы мясцовае пароды, якія з нікуль не справаджываліся, а паўсталі дарогаю натуральнага разводу.

Сяньня ёсьць моцнае перакананьне фаховых пчаляроў практыкаў, што гэтая мяйсцовая парода пчол найбольш надаецца для нашага клімату

і найбольш падходзіць да нашых варункаў жыцьця, а дзеля гэтага і найбольш павінна быць разводжанаю. Праўда, што з многіх вульлёў мясцовае пароды, шмат ёсьць такіх, якія ўжо з рожных фізіолёгічных прычынаў змарнелі і дзеля гэтага не надаюцца для далейшага расплоду, але тут павінна прыйсьці з помачу штучнае палепшаньне гэтае пароды, біручы прыкладам наймацнейшыя калоды і найбольш здаровыя і плодныя маткі і злучаючы іх разам, цераз што і патомства атрымаем добрае.

*Пчаляр.*

(Працяг будзе).

## Хроніка.

### „Нацыянальныя справы".

Выйшаў у сьвет выданы Інстытутам Дасьледаваньня Нацыянальных справаў № 3 — 4 „Spraw Narodowościowych", часопісі, пасьвячанай досьледаваньню нацыянальных справаў.

На багаты зьмест гэтага нумару (150 стар.) злажыліся наступныя артыкулы: п. С. І. Папроцкага п. з. „IV Кангрэс нацыянальных меншасьцяў, які адбыўся ў Жэнэве ў канцы жніўня; п. Д ра Вацлава Юноошы пад заг. „Польскае школьніцтва ў Нямеччыне; Д-ра А. Крысінскага пад заг. „Лік і месца аселішча Беларусаў у Польшчы; далей артыкул „Палякі ў Савецкай Украіне і канец працы п. Ст. Чоснкоўскага пад заг. „Справы нацыянальных меншасьцяў у Уніі С- Лігі Народаў"

Апроч таго нумар зьмяшчае як заўсягды абшырную, актуальную і цікаўную хроніку датычучую жыцьця нацыанальных меншасьцяй у Польшчы і за межамі яе.

Цана асобнага нумару 5 злотых. Купіць можна ва ўсіх кнігарнях і адміністрацыі „Spraw Narodowościowych", Warszawa, ul. Jasna 19.

### Адклад агульнага сходу Т-ва Беларускай Школы.

Дачасная Паўнамочная Камісія Т-ва Беларускай Школы паведамляе, што агульны сход Т-ва, які быў вызначаны на дзень 21 кастрычніка с. г. адкладваецца дзеля таго, што да гэтага часу яшчэ не праведзяны выбары дэлегатаў.

### Справа Беларускага Тэатру ў Вільні.

Як падае „Бел. Крыніца" Тэатральная Сэкцыя Бел. Інст. Гасп. і Культуры прыступіла да арганізацыі ў Вільні сталых беларускіх спэктакляў. Спэктаклі маюць адбывацца раз на 2 тыдні, пасьля магчыма часьцей.

У першую чаргу падгатаўляюцца да пастаноўкі сцэнічныя творы: „На Антокалі", „Залёты" і „Апошняе Спатканьне". Тэатральная сэкцыя павінна стацца асновай сталага Беларускага Тэатру ў Вільні.

### Агульны Сход Беларускага Студэнскага Саюзу.

На адбыўшымся 20 кастрычніка г. г. агульным сходзе Беларускага Студэнскага Саюзу, быў выбраны новы ўрад у наступным складзе: Старшыня М. Тулейка, віцэ-старшыня Я. Шутовіч, сэкрэтар Шкутко, скарбнік А. Бартуль і сябра ўраду Скурка.

Новаму ўраду жадаем памыснай працы, а падбор сяброў ураду дае гварацыю, што праца і толькі праца будзе першым іх абавязкам.

### Студэнская Думка.

Вышаў з друку і прадаецца ўва ўсіх беларускіх кнігарнях чародны нумар „Студэнскай Думкі", орган Беларускага Студэнства. Зьмест номяру багаты, паважны і цікаўны. Цана асобнага нумару 1 зл.

Ня трэба хіба і напамінаць, што абавязкам кожнага беларуса ёсьць прыйсьці з дапамогай студэнскай моладзі, а такой малой помачай і будзе купленьне студэнскай часопісі.

## Апошнія навіны.

**Францыя.** Францускія ўлады пастанавілі высяліць з Францыі амэрыканскага журналістага Горана, які перакупіўшы чыноўніка францускага міністэрства заграпічных справаў здолеў украсьць і апублікаваць дакуманты адносячыяся да француска-ангельскага марскога паразуменьня.

**Англія.** У Англіі хаця выбары ў парлямэнт адбудуцца летам 1929 г., аднак ўжо амаль усе партыі пачалі да іх гатовіцца. Усе годзяцца з тым, нават кансэрватысты, якія цяпер кіруюць дзяржаваю, што пры наступных выбарах перамогу аднясуць ангельскія сацыялістыя коштам консэватараў і лібэралаў. Аднак трудна спадзявацца каб сацыялістыя здолелі здабыць большасьць у парлямэнце і стварыць уласны ўрад. Супрацоўніцтва сацыялістых з лібэраламі не варожыць трываласьці. Такім чынам можна спадзявацца, што новы парлямэнт будзе скора распушчаны, адбудуцца новыя выбары і тыя дадуць выразьнейшы сытуацыі. Што, консэрватары страцяць на новых выбарах не падлягае сумліву. Цяперашні ўрад ня здолеў палепшыць цяжкога гаспадарчага крызысу, ня зьменшыў безработіцы і ў міжнародных адносінах ня здолеў прынясьці для Англіі надзвычайных карысьцяў.

**Нямеччына.** Плебісцыт у справе будовы новага браненосца, які адбыўся на прапазыцыю нямецкае камуністычнае партыі прынёс вельмі сумныя для камуністых рэзультаты. За становішчам камуністых ў гэтай справе высказалася нават менш, чымся пры выбарах у Сойм пала галасоў за камуністых. Аказваецца, што калі ідзе аб узбраеньне Нямеччыны дык нямецкія камуністыя робяцца самымі белымі імпэрыялістамі.

**СССР.** Вельмі благі стан сёлетніх збораў, як і агульная гаспадарчая палітыка Саветаў прывяла да таго, што спэкулянты, лічачы на звыжку цэн, скупілі вялікія запасы зярна і ўкрылі яго, пазбаўляючы такім чынам людносьць местаў і мястэчак, асабліва на пагранічы, можнасьці атрымання кавалка хлеба.

**Польшча. Перарыў польска-нямецкіх гандлёвых перэгавораў.** Перагаворы аб заключэньні польска-нямецкага гандлёвага дагавору, якія ўжо бяз мала цягнуцца 4 гады ізноў перарваны. Пакуль што няма ведама з якіх прычын. Аднак бязумнўна галоўную ролю адыгрывае тут становішча нямецкіх земляўласьнікаў, якія баяцца, што па заключэньні дагавору ня атрымаюць помачы з боку

нямецкага ўраду на паднясеньне сваіх гаспадарак, і якія баяцца канкурэнцыі польскіх землясробскіх прадуктаў і быдла.

З другога боку спорнай справай зьяўляецца высокасьць кантытэнту вугльля, які мела-б права Польшча ўвозіць у Нямеччыну. Старшыня нямецкай дэлегацыі для перэгавараў з Польшчай Гэрмэс' зьяўляецца мужам давер'я нямецкіх абшарнікаў і вялікага промыслу. Таму так трудна з нямецкай дэлегацыяй дагаварыцца. Чуткі аб уступленьні Гэрмэса аказаліся непраўдзівымі.

**Канец забастоўкі ў Лодзі.** Забастоўка работнікаў суконных фабрых у Лодзі скончылася. Можна сказаць, што забастоўка скончылася няўдачай для работнікаў. Фабрыканты згадзіліся даць падвышку 5%, і толькі некаторым майстром, працуючым на некалькіх кроснах падвышылі да 15-20%.

Такое вырашэньне справы не варожыць спакою на даўжэйшы час. Бяручы пад увагу нават падвышку 5%, усё-ж такі трэба прызнаць, што заработкі ў Лодзі так нізкія, што кожны амаль работнік мусіць напол галадаць.

Няўдача забастоўкі тлумачыцца між іншым падзеямі, якія мелі месца апошнімі днямі ў ППС.

**Разлом у Польскай Партыі Сацыялістых.** Ужо даўно хадзілі чуткі, што ў Польскай Партыі Сацыялістых дасьпявае разлом. Група старых сябраў партыі была нездаволена з палітыкі Цэнтральнага Камітэту Партыі. Асабліва зарысоўваліся рожніцы ў справе адносін да ўраду Марш. Пілсудскага. Як ведама ППС астаецца ў апазыцыі да ўраду. Таму мін. Марачэўскага, які астаўся ў урадзе партыйны суд выключыў з партыі.

Але часьць паслоў сацыялістых дамагалася ад цэнтральных ўладаў партыі зьмены адносін да ўраду. Словам былі галасы за шуканьнем шляхоў супрацоўніцтва з Урадам. Аднак яшчэ ня было мовы аб разломе. Вось ў такіх варунках паявілася, спярша эканфіскаваная брашура старога сацыялістага Р. Мінкевіча, які паставіў Варшаўскай арганізацыі ППС, а асабліва пас. пас. Явароўскаму, Шчыпёрскаму, Даўнаровічу шэраг цяжкіх закідаў натуры маральнае і крымінальнае. Далей паявілася газэта „Przedświt" орган мін. Марачэўскага, які актыўна выступіў procіў ППС., дамагаючыся рэвізіі праграмы і ўстасункаваньня да ўраду. Пасьля ўсяго гэтага варшаўская арганізацыя ППС. на чале з паслом Яварэўскім выступіла з ППС. і стварыла новую партыю пад разовам ППС. Даўная Рэвалюцыйная Фракцыя.

Глыбейшымі прычырамі разлому зьяўляецца бязумоўна тое, што кіраўнічыя ўлады партыі ня здолелі знайсьці новых шляхоў развою і пазытыўнай працы, дзеля рэалізацыі свае праграмы. Ялова апазыцыя, а пры тым страх перад адказнасьцяй за ўладу, вось гэта так сама прычыны разлому.

**Літва.** Як літоўскі, так і польскі ўрады прыгатаўляюцца да перагавораў, якія пачнуцца 3 лістапада ў Кэнігсбэргу ў Усходняй Прусіі. У склад польскай дэлегацыі ўвойдуць мін. Залескі, радца Шумлякоўскі, начальнік Голувко і экспэрты.

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ".**

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

**Прапазыцыя.**

— Як не аддасі мне 25 злотых, то цябе падам у суд.

— Так? То ведаеш братка што, пажыч мне яшчэ 25 зл. і падай на 50 злотых, кошты судавыя адзінакавыя.

**Не сваё.**

— Чы ня стыдна табе хадзіць па месьце ў такім парваным і паплямленым пальце?

— Чаго маю стыдацца, гэта-ж пальто не маё, а пазычанае.

*Я. Ц.*

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

Я. Ц. № № 37 за 1927 год і 4 (44), 22 (62) і 23 (63) за 1928 год можам прысласць пасьля прысылкі аднога злотага, № 12 (52 увесь разышоўся, апроч эгзэмпляраў камплектовых і дзеля гэтага выслаць яго ня можам. Жарты памешчаем.



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3